www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 15 (4164)**

21 лютага 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Да ўвагі!**

Тых чытачоў “Народнай Волі”, якім трэба прадоўжыць падпіску на сакавік і наступныя месяцы (альбо аформіць упершыню), чакаюць **сёння і заўтра** ў паштовых аддзяленнях і спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”.

**Не спазніцеся!**

# 21 лютага – Міжнародны дзень роднай мовы!

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

## Маразм в Октябрьском

Вспомнился анекдот из советского прошлого.

Полный автобус, час пик, и вдруг один из пассажиров задумчиво говорит:

– А я знаю, кто в правительстве дурак!!!

На ближайшей остановке автобус заметно опустел, так как вышли все, кто услышал крамолу. Едут дальше. Товарищ не успокаивается:

– А я знаю, кто в правительстве дурак!!!

На следующей остановке автобус стал совсем уже пустой, зато к мужчине подходят двое в штатском: «Пройдемте!» Ведут его в кабинет с портретом Дзержинского на стене и спрашивают очень сурово и под протокол:

– Итак, гражданин Иванов, кто, вы говорите, в правительстве дурак?

– Рональд Рейган, – отвечает гражданин Иванов. – А вы на кого подумали?

Собственно, почти такой же анекдот случился в райцентре Октябрьский Гомельской области. И действующими лицами в нем стали представители местной «вертикали» – не последние должностные лица райисполкома.

Месяц назад активистка ОГП, экс-кандидат в депутаты Палаты представителей **Алена Луцкович** проводила здесь уличный опрос для своего блога. Молодая женщина хотела услышать мнение местных жителей о выборах – насколько они в Беларуси честные и справедливые. Да вот только в числе местных жителей встретились ей исполкомовские чинуши, возвращавшиеся на рабочие места после обеда. Что тут началось!

Заместитель начальника отдела идеологической работы **Сергей Заричный** позвонил в милицию и пожаловался на «назойливые приставания». Начальник отдела организационно-кадровой работы **Татьяна Семенец**, начальник управления по труду, занятости и социальной защите **Татьяна Габинетова**, главный специалист отдела архитектуры и строительства **Ирина Дулуб** все о тех же «назойливых приставаниях» написали правоохранителям заявления. Что они подумали, услышав вопрос про выборы, можно только догадываться. Но реакция была такая, будто исполкомовские работники не в обыкновенный уличный опрос попали, а уже побеседовали с прокурором, который готовит обвинение. По крайней мере, как следует из заявлений, после «назойливых приставаний» Луцкович у работниц райисполкома было нарушено «эмоциональное спокойствие, что повлияло на осуществление трудовой деятельности».

Это ж надо, о чем они подумали, услышав нехитрый вопрос «Верите ли вы, что выборы в Беларуси честные и справедливые?»! Представляете, сколько всего прокрутилось у них в голове, как они перепугались, если кинулись писать заявления в милицию?!

Сергей Заричный – сам депутат районного Совета, Татьяна Семенец возглавляла окружную комиссию на выборах местных Советов, Татьяна Габинетова – участковую… Как люди причастные, они могли, например, поклясться, что выборы у нас честные и справедливые. Могли ничего не отвечать. Но райисполкомовские начальники в Октябрьском при упоминании выборов сразу в милицию за защитой побежали. Это о чем же они в связи с выборами подумали?..

А еще интересно, о чем думала судья **Людмила Гормаш,** которая на прошлой неделе все-таки признала Алену Луцкович виновной в мелком хулиганстве, так как активистка *«умышленно, беспричинно, назойливо, неоднократно останавливала и приставала к гражданам, требовала ответить на ее вопросы, на просьбы граждан оставить их в покое не реагировала, чем нарушила общественный порядок и спокойствие граждан»*. Судья наказала Алену штрафом в 15 базовых величин, что равняется 345 рублям.

С каких это пор задавать вопросы на улицах считается мелким хулиганством? Кто и в каком вузе судью Гормаш этому научил? В каком законе написано, что уличные опросы запрещены, что на них надо получать специальное разрешение? Что еще придумают чиновники в Октябрьском, не желая отвечать на прямые вопросы, волнующие людей?.. Кого, помимо милиции, привлекут себе в помощь – пожарников, дворников, клоунов, КГБ?..

Вопросов в связи с этим позорным делом можно задавать много. Но ответ – как в том анекдоте.

Кто в Октябрьском районе дурак? Кажется, я знаю, на кого вы подумали.

ДЫПКУР’ЕР

## Ігар Кізіма – новы амбасадар Украіны ў Беларусі

Прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка прызначыў Ігара Кізіму Надзвычайным і Паўнамоцным Амбасадарам Украіны ў Беларусі. Да гэтага ён працаваў дарадцам пры пасольстве Украіны ў Вялікабрытаніі.

ВУСНАМІ ВУЧОНАГА

## Член-карэспандэнт НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец прапанаваў меры па падтрымцы беларускай мовы



У Беларусі неабходна прыняць меры па падтрымцы нацыянальнай мовы для забеспячэння рэальнага раўнапраўя дзяржаўных моў у сітуацыі двухмоўя, зацверджанага Канстытуцыяй.

Такое меркаванне выказаў на прэс-канферэнцыі 17 лютага першы намеснік дырэктара па навуковай рабоце Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук (НАН) Беларусі **Аляксандр Лукашанец.**

Навуковец прапанаваў шэраг мер, якія, на яго думку, найбольш неабходныя і актуальныя на сённяшні дзень. Перш за ўсё ён лічыць патрэбным рыхтаваць, абмяркоўваць і прымаць усе заканадаўчыя акты адначасова на дзвюх мовах.

Дзяржаўныя і прыватныя ўстановы, лічыць Лукашанец, павінны быць забяспечаны ўсімі неабходнымі бланкамі і іншымі дакументамі як на рускай, так і на беларускай мове.

Усе службовыя асобы, сказаў навуковец, павінны сапраўды валодаць дзвюма афіцыйнымі мовамі Беларусі, каб мець зносіны з грамадзянамі. Ён перакананы, што *«дастатковае веданне абедзвюх дзяржаўных моў павінна быць галоўным крытэрыем адпаведнасці работніка сваёй службовай пасадзе»*.

Высокі ўзровень валодання беларускай мовай таксама павінен быць у выпускнікоў ВНУ, асабліва гэта тычыцца маладых настаўнікаў. *«Сёння вельмі востра стаіць праблема падрыхтоўкі педагагічных кадраў, якія маглі б пасля атрымання дыплома выкладаць на любой дзяржаўнай мове свае навучальныя прадметы, у тым ліку фізіку, матэматыку, хімію»*, – растлумачыў прадстаўнік НАН Беларусі.

На выніковых іспытах у школе і на ўступных іспытах у ВНУ, на яго думку, трэба правяраць веданне дзвюх дзяржаўных моў, а не адной – на выбар выпускніка або абітурыента.

Такія меры, адзначыў вучоны, адпавядаюць *«сутнасці дзяржаўнага двухмоўя»* і Канстытуцыі Беларусі. Яны дапамогуць беларускай мове *«заняць належнае становішча ў грамадстве»* і забяспечаць *«неабходную моўную кампетэнцыю грамадзян»*.

*“Гэтыя меры таксама дазволяць нам замацаваць прэстыж краіны як дзяржавы, якая выбудоўвае сваю незалежнасць, захоўвае нацыянальныя асаблівасці і паспяхова ўваходзіць у сусветную супольнасць,* – падсумаваў Лукашанец.

**Захар ШЧАРБАКОЎ.**
(БелаПАН).

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

## Чаму так мала школьнікаў вучыцца на роднай мове?



Цяпер на беларускай мове навучаюцца 128,6 тысячы школьнікаў. З кожным годам колькасць такіх вучняў памяншаецца. У сярэдзіне 1990-х гадоў сярэднюю адукацыю на беларускай мове атрымлівалі больш за 500 тысяч школьнікаў.

– Значная колькасць устаноў з беларускай мовай навучання працуе ў сельскай мясцовасці. У сталіцы статус беларускамоўнай гімназіі маюць пяць устаноў. І, улічваючы, што пры паступленні ў некаторыя з іх адбываецца конкурс, можна сказаць, што навучанне на беларускай мове запатрабаванае, – адзначае намеснік старшыні ГА “Таварыства беларускай мовы”, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу **Алена Анісім**.

ЖАХ!

## «Дзеля чаго забіваў? Дзеля забавы…»

Учора ў Мінскім гарадскім судзе пачаўся працэс над 18-гадовым Уладзіславам Казакевічам, які напаў на людзей з бензапілой у сталічным гандлёвым цэнтры “Новая Еўропа”.

Яшчэ ў снежні мінулага года Следчы камітэт паведамляў: абвінавачаны падчас нападу быў п’яны. Вечарам 8 кастрычніка 2016 года ён прыйшоў у ГЦ “Новая Еўропа” з бензапілой і сякерай-кувалдай. Спачатку ён паспрабаваў забіць адну з жанчын, але яна збегла. Тады другой жанчыне ён нанёс два ўдары пілой, а затым яшчэ некалькі – сякерай. Ад атрыманых траўм яна памерла на месцы. Затым ён параніў яшчэ дзвюх жанчын.

Следства таксама ўстанавіла, што хлопец рыхтаваўся здзейсніць напад у ВНУ 7 кастрычніка 2016 года. Будучы п’яным, ён зайшоў у вучэбны корпус і завёў бензапілу. Паводле інфармацыі СК, ён накіроўваўся ў лекцыйную аўдыторыю, дзе займаліся 178 студэнтаў. Але хлопец выпадкова закрануў рычаг тормазу, і завесці бензапілу зноў не ўдалося. Гэта вымусіла яго рэціравацца.

Згодна з заключэннем псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы, непаўнагадовы ў перыяд інкрымінуемых яму дзеянняў мог у поўнай меры ўсведамляць значэнне сваіх учынкаў і кіраваць імі.

Між тым на ўчарашнім пасяджэнні некаторыя адказы і заявы **Уладзіслава Казакевіча** проста шакіравалі прысутных.

*“Было жаданне забіць як мага больш аднакурснікаў. Вырашыў, што выдатная ідэя парэзаць іх бензапілой. Не, спачатку хацеў пасекчы, а пасля вырашыў парэзаць”.*

*“Навошта вам было некага забіваць?”* – пытаўся ў хлопца пракурор. *“Дзеля прыколу. Дзеля забавы”*, – спакойна адказваў той.

*“Калі б вы зараз выйшлі на волю, працягвалі б забіваць?”* – запыталася адна з пацярпелых. *“Так”*, – адказаў Казакевіч.

Кроў стыне ад такіх слоў. Уся Беларусь павінна задумацца.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

АНОНС

**Александр МРОЧЕК,**
**директор Республиканского научно-практического центра «Кардиология», академик, профессор:**



*– Беларусь сегодня в лидерах по числу курильщиков среди всех европейских стран. Выше нас только Армения. А курение, злоупотребление алкоголем, лишний вес – самые серьезные факторы риска возникновения сердечно-сосудистых заболеваний.*

**(Интервью с Александром Геннадьевичем Мрочеком читайте на 6-й стр.)**

ВІНШУЕМ!

## Міхаіл ФІНБЕРГ: «70 гадоў – гэта зусім не старасць!»

*Сёння, 21 лютага, свой юбілей святкуе стваральнік, дырыжор і кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі прафесар Міхаіл Фінберг. Праўда, сам Міхаіл Якаўлевіч гаворыць, што юбілейны дзень будзе для яго самым звычайным.*



“*Так, гэта не жарт – я сапраўды не святкую дні народзінаў*, – адказаў Міхаіл Якаўлевіч “Народнай Волі”. – *І для сваякоў і блізкіх сталы не накрываю. Усе ведаюць пра гэтую маю традыцыю і не крыўдзяцца*”.

На пытанні пра здароўе і ўзрост Міхаіл Фінберг адказвае бадзёра і прынцыпова: “*Не дачакаецеся!*” І тут жа дадае: “*Адчуваю сябе выдатна, узрост на мяне не цісне. Я вельмі шмат працую.*

*А ўвогуле 70 гадоў – гэта зусім не старасць! І ў 80 гадоў некаторыя працуюць яшчэ, і нават пазней. І нічога дзіўнага тут няма. Галоўнае, каб справа, якой вы займаецеся, прыносіла задавальненне. Таму не трэба мне двухсэнсоўна нагадваць: маўляў, вам ужо 70… Ну і што, што 70?! Я кожны дзень працую. І не стамляюся. Яшчэ маладым дам фору!*”

Шмат гадоў Міхаіл Фінберг не ўжывае спіртных напояў. Юбілей таксама не стане нагодай для таго, каб парушыць гэтую традыцыю. Вядома ж, другім не забараняецца падняць бакал ці кілішак за яго здароўе.

Міхаіл Фінберг жыве ў Мінску ў звычайнай двухпакаёўцы ў цэнтры горада. Жанаты вядомы дырыжор быў адзін раз, ад гэтага шлюбу мае дарослага сына. Сваю жаніцьбу Фінберг называе памылкай маладосці.

“*Мне было 23 гады*, – распавядаў ён. – *Я ўвесь быў у працы, зразумела, што нікому дома гэта не падабалася. Калі трэба было зрабіць выбар, я выбраў аркестр і так пражыў усё жыццё. І не шкадую*”.

Міхаіл Фінберг і сёння гаворыць, што яго сям’я – гэта яго аркестр.

З юбілеем, шаноўны Міхаіл Якаўлевіч!

**Марына КОКТЫШ.**

С ПОЛИЧНЫМ...

## Следующие пошли!

*Правоохранительными органами задержан при получении взятки в 5 тысяч долларов бывший генеральный директор «Гомельтранснефть Дружба» **Сергей Сосновский**.*

Еще 14 декабря в Москве он участвовал в совещании по обсуждению установления тарифов на транспортировку нефти на 2017 год – об этом прошло сообщение во многих СМИ. А теперь выясняется, что именно полтора месяца назад (видимо, после возвращения домой из командировки) Сосновский и был задержан. А потом, 3 февраля, освобожден от занимаемой должности.

Взяткодатель – В.Тимошпольский, бывший заместитель председателя Президиума НАН Беларуси – также задержан.

**Кирилл БУБНОВ.**

